# Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №8(103), чэрвень, 2019г.


## У БЫЧКАХ НА ВУШАЧЧЫНЕ АДБЫЛОСЯ СЬВЯТА Ў ГОНАР ВАСІЛЯ БЫКАВА

**У роднай вёсцы Васіля Быкава 22 чэрвеня адзначылі 95-ю гадавіну з дня народзінаў народнага пісьменьніка Беларусі.**

Месцам сёлетняй сьвяточнай імпрэзы, якую арганізаваў рух "За Свабоду", стала пляцоўка перад будынкам былой школы, якую ў свой час скончыў клясык беларускай літаратуры.

Перад пачаткам імпрэзы споры дождж загнаў шаноўную публіку пад паветку, і старшыня руху "За Свабоду" **Юрась Губарэвіч** вымушаны быў пачаць выступ, хаваючыся пад падстрэшкам над ганкам. Але неўзабаве ліць перастала – мерапрыемства прайшло пры добрым надвор'і і настроі.

"Літаратурная і грамадзкая дзейнасьць Васіля Быкава ёсьць урокам для ўсіх беларусаў, але 95-я ўгодкі пісьменьніка афіцыйна ніяк не адзначаюцца. У буйных гарадах няма аніводнай цэнтральнай вуліцы, названай у гонар выбітнага беларуса, аніводнага помніка. Ва ўлады іншыя прыярытэты: яна аддае перавагу правядзеньню спартовых мерапрыемстваў, адцягваючы ўвагу грамадзтва ад надзённых праблемаў", – зазначыў у сваёй прамове Юрась Губарэвіч.

"Сёньняшні рэжым быў распазнаны Быкавым у першыя дні ягонага існаваньня і ня быў падтрыманы пісьменьнікам. Гэты рэжым мусіць сысьці, і выбар для кожнага з нас відавочны, бо мы працягваем тую справу, якую пачаў Васіль Быкаў", – дадаў палітык.

Адзін з пачынальнікаў дэмакратычнага руху на Віцебшчыне **Хрыстафор Жаляпаў** у кароткім выступе нагадаў, што ідэя правядзеньня сьвяточных імпрэзаў у Бычках упершыню была агучаная 16 гадоў таму грамадзкай актывісткай з Шаркоўшчыны Адай Райчонак.

"Васіль Быкаў натхняў нас сваімі творамі. Дзякуючы ім я стаў беларусам! Васіль Быкаў – гэта той сьцяг, пад якім мы ўсе разам імкнемся да таго, каб Беларусь стала сапраўды незалежнай, сапраўды дэмакратычнай, сапраўды эўрапейскай", – сказаў Хрыстафор Жаляпаў.

**Ада Райчонак** распавяла гісторыю пра тое, як яна, настаўніца рускай мовы і літаратуры, дзякуючы Васілю Быкаву пачала размаўляць па-беларуску.

"У Менску адзначалі дзень народзінаў Язэпа Драздовіча. Мяне запрасілі на сцэну, і я разгаласілася, бо пасьля Васіля Быкава не змагла выступаць на трасянцы. І ён мне сказаў, каб я пераходзіла на беларускую. Я паклялася, што ніколі ня буду выступаць па-расейску. І сваё слова трымаю!" – распавяла Ада Райчонак.

Маладая паэтка зь Менску **Крысьціна Бандурына** прачытала ўрывак з кнігі Быкава "Сьцяна", а потым, скарыстаўшыся нагодай, пазнаёміла публіку з двума ўласнымі вершамі.

Грамадзкая актывістка зь Віцебску **Тацяна Севярынец**, назваўшыся "упаўнаважаным прадстаўніком сям'і Севярынцаў", прачытала ўрывак з вершаванага



трыптыху "Бычкі", які стварыў ейны муж Канстанцін Севярынец.

Старшыня абласнога аддзяленьня Беларускага саюзу мастакоў **Сьвятлана Баранкоўская** прывезла ў Бычкі два свае знакамітыя габэлены, прысьвечаныя Быкаву. Раскрываючы ідэйную канцэпцыю аднаго зь іх, мастачка пераконвала, што толькі ад нас залежыць, "ці нашае бел-чырвона-белая існасьць стане шырэйшай і квітнеючай, ці мы дазволім яе спаскудзіць і яна станчыцца..."

Бешанковіцкі бард і знакаміты паэт **Георгі Станкевіч** выканаў тры свае песьні, прысьвечаныя Васілю Быкаву.

У музычнай частцы імпрэзы першым выступіў **Андрусь Такінданг**. Музыка цешыў публіку сваімі іранічна-гумарыстычнымі сьпевамі.

Другім мусіў выступаць **Зьміцер Бартосік**. Гэтым разам ён прыехаў не адзін, а зь сям'ёю. Знакаміты бард напачатку заявіў, што сьпяваць не зьбіраецца. Але на гэтым сюрпрызы ня скончыліся. Поўнай неспадзяванкай для прысутных стаўся выступ сямейнага ансамблю.

Пад акампанэмэнт бацькоў Зьмітра і Тацяны дзеці прасьпявалі фальклёрныя і аўтарскія песьні. Па-сапраўднаму прафэсійна! Зьміцер Бартосік сказаў, што з назвай калектыву пакуль ня вызначаліся, але чарнавым варыянтам зьяўляецца назва "Бартосікі".

На імпрэзу ў Бычкі прыехала больш за сотню чалавек з усіх куткоў Беларусі.

*С. Горкі, vitebskspring.org*

**Запрашаем усіх беларусаў наведаць вёску Бычкі Ушацкага раёну, дзя знаходзіцца дом-музэй Васіля Быкава, пахадзіць па мясцінах, дзе правёў дзяцінства маленькі Васілёк, падыхаць паветрам і выкупацца ў чыстых водах ушацкіх азёраў, праз Ушачы на Кублічы 2 км да Бычкоў.**

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.
Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня
Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.
E-mail: kas_vit@tut.by

**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
**WWW.MOLADZ.INFO**
VK.COM/BNF_MOLADZ

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
Рэквізіты:
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
ААТ «Банк БелВЭБ»
г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак** "Разлік" (АРІП)- код паслугі **4431691**

**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# СТАРШЫНЯ ПАРТЫІ БНФ РЫГОР КАСТУСЁЎ: "СВАБОДНЫХ І СПРАВЯДЛІВЫХ ВЫБАРАЎ У БЕЛАРУСКІ НЯМА"

**"Свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі няма, але ўдзельнічаць у іх трэба, каб паказаць беларусам і свету, як на самой справе ў Беларусі праходзяць выбары" – гаворыць Рыгор Кастусёў у адказ на пытаньне журналіста сайта "Беларускі партызан" наконт мэтаў, з якімі БНФ ідзе ў парлямэнцкую кампанію.**

Ён таксама паведаміў што за час краўдфандынгу партыя сабрала больш за 15 тысяч даляраў.

Прапануем вашай ўвазе тэкст інтэрвію цалкам на мове арыгінальнай публікацыі.

- Я уже не помню точно, на какую дату мы подводили итоги компании, но, если не ошибаюсь, в конце весны – начале лета у нас было собрано больше 30 тысяч белорусских рублей, – говорит политик. – А клич о помощи мы бросили в конце минувшего года. И мы не останавливаем сбор средств на поддержку партии. Благодаря помощи людей мы, можно сказать, успешно вышли из очень непростой финансовой ситуации. И даже суды прошли. Не все, правда, выиграли, но и не все проиграли.

*- Значит сегодня финансовый вопрос закрыт?*

- Он стоит не так остро, но по-прежнему актуален. Мы очень благодарны каждому за поддержку. Задолженностей за коммунальные платежи у нас нет. И не стоит вопрос о том, что завтра мы можем оказаться на улице.

*- Одно из требований заявления о либерализации условий деятельности для политических партий, под которым подписались почти все оппозиционные силы страны, – госфинансирование. Как думаете, насколько это реально?*

- Мы готовили это обращение с учетом изучения опыта европейских стран. На Западе государство поддерживает политические партии – на разных условиях. Мы хотим, чтобы белорусская власть рассмотрела возможность финансовой поддержки наших партий. Всех без исключения. Тем более, что разговор об этом идет давно. Очень хотелось бы, чтобы к нам прислушались.

*- Григорий Андреевич, а что с выборами? Вы будете баллотироваться в Палату представителей?*

- Как раз в субботу, 29 июня, состоится очередной сейм, один из вопросов – подготовка внеочередного съезда по выдвижению кандидатов в депутаты Палаты представителей. Также будем обсуждать и иные вопросы, связанные с избирательной кампанией.

*- Сами в выборах участвуете?*

- Да. Пока у меня есть желание и намерение баллотироваться в парламент. Теперь необходимо, чтобы мою кандидатуру поддержал сейм. А там уже начнется подготовка списков и всех необходимых документов.

*- Провластные политологи упрекают политические партии в том, что они не могут закрыть все 110 округов своими кандидатами…*

- Я отлично помню последнюю парламентскую кампанию. Тогда Партия БНФ на съезде выдвинула 72 или 76 кандидатов в депутаты. Только одна наша партия! Это немало. И остальные партии выдвинули своих кандидатов. Мы перекрывали округа, на многих было сразу несколько представителей оппозиционных политических партий.

Но провластные политологи забывают о том, как у нас проводится подсчет голосов и кто становится депутатом. Помните, как в сети появился список будущих депутатов Палаты представителей? Так вот, большинство фамилий из этого списка сегодня можно найти в Палате представителей.

Мне кажется, уже давно ни для кого не секрет, что списки депутатов у нас составляются заранее. Думаю, и в этот раз мы в эти списки не попадем.

*- Тогда зачем играть в эти игры с властью?*

- Чтобы заявить, что мы есть. Мы должны пойти к людям. И показать не только белорусам, но и всему миру, как в нашей стране проходят выборы.

Безусловно, власти будет проще, если в избирательной кампании не будут участвовать оппозиционные кандидаты. Тогда можно показать картинку, что выборы прошли идеально, по стандартам. Но на самом деле свободных и справедливых выборов в Беларуси нет.

*Павел Мазак, "Белорусский партизан"*

**Важнай часткай выбарчай кампаніі ёсьць незалежнае назіраньне, якое ладзяць суб'екты «Права выбару-2019», Віцебская арганізацыя Партыі БНФ заклікае жыхароў горада далучацца да назіральнікаў, паведамляць па партыйных тэлефонах свае кантакты, праходзіць навучаньне і зрабіць усё магчымае, каб прадухіліць парушэньні Выбарчага Кодэкса на участках для галасаваньня.**

# ЗАЯВА ПАРТЫІ БНФ ДЫ ІНШЫХ ПАРТЫЯЎ І РУХАЎ З НАГОДЫ ЗМЕНАЎ У ЗАКОН ПРА ПАРТЫІ

**Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і прадстаўнікі іншых палітычных партый, аргкамітэтаў па стварэнні палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў падпісалі заяву наконт лібералізацыі ўмоў дзейнасці палітычных партый у Беларусі.**

Нагодай для звароту стала распрацоўка міністэрствам юстыцыі зменаў і дапаўненняў да дзеючага закону "Аб палітычных партыях". У заяве партыі выкладаюць, якія менавіта змены ў гэтым законе маглі б спрыяць рэальнай дэмакратызацыі палітычнага жыцця ў Беларусі на карысць беларускага народу.

"Мы, прадстаўнікі палітычных партый, аргкамітэтатаў па стварэнні палітычных партый і іншых грамадскіх арганізацый лічым, што палітычныя партыі ў сучасных умовах павінны адыгрываць вядучую ролю ў палітычным жыцці Беларусі і выражаць волю грамадзян у рашэнні дзяржаўных пытанняў, — гаворыцца ў дакуменце. — Мы канстатуем, што ў Рэспубліцы Беларусь склалася негатыўная практыка абмежавання дзейнасці партый, якая выражаецца ў стварэнні неабгрунтаваных перашкодаў для рэгістрацыі новых палітычных партый, для развіцця арганізацыйных структур ужо існуючых партый, а таксама абмежаванняў доступа да СМІ і да крыніц фінансавання. Пры гэтым назіраецца няроўнае стаўленне ўлады да палітычных партый у залежнасці ад іх лаяльнасці ў адносінах да дзеючай ўлады.

У сувязі з тым, што распачаўся працэс зменаў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб палітычных партыях" патрабуем замацаваць у новай рэдакцыі закона прынцыпова важныя змены:

• Спрасціць парадак рэгістрацыі палітычных партый, скараціць колькасць заснавальнікаў, увесці паведамляльны прынцып пастаноўкі на ўлік іх арганізацыйных структур;

• Забяспечыць дзяржаўнае фінансаванне статутнай дзейнасці палітычных партый, а таксама спрыяць прадастаўленню памяшканняў з фонда рэспубліканскай і камунальнай уласнасці для выканання імі дзейнасці ў статутных мэтах;

• Абавязаць дзяржаўныя органы і органы самакіравання прадаставіць роўныя магчымасці для дзейнасці ўсіх палітычных партый, у тым ліку гарантаваць ім права доступу да дзяржаўнага тэлебачання, газет і радыё.

Мы заяўляем, што без ўліку і рэалізацыі гэтых прапаноў, папраўкі ў закон будуць насіць касметычны, фармальны характар і не будуць спрыяць далейшаму развіццю палітычнай сістэмы Беларусі".

Дакумент падпісалі старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) **Ігар Барысаў**, старшыня аргкамітэта па стварэнні Беларускай партыі працоўных **Аляксандр Бухвостаў**, старшыня ПАГА "Рух "За Свабоду" **Юрый Губарэвіч**, выконваючы абавязкі старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай партыі **Мікалай Казлоў**, старшыня Беларускай партыі левыя (Справядлівы свет) **Сяргей Калякін**, старшыня Міжнароднага Цэнтра Грамадзянскіх Ініцыятыў **Вольга Карач**, старшыня Партыі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне" **Рыгор Кастусёў**, першы намеснік старшыні Беларускай партыі "Зялёныя" **Дзмітрый Кучук**, старшыня аргкамітэту па стварэнні Партыі свабоды і прагрэса **Уладзімір Навасяд**, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя **Віталь Рымашэўскі**, старшыня аргкамітэта па стварэнні Беларускай партыі жанчын "Надзея" **Алена Яськова**.

Нагадаем, што напачатку распрацоўкі міністэрствам юстыцыі новага законапраекта партыі накіравалі распрацоўшчыкам свае прапановы што да зместу меркаваных зменаў. Супольныя прапановы ад групы беларускіх палітычных партыяў і рухаў былі пададзеныя ў рабочую групу, што была створаная Міністэрствам юстыцыі. Разам з Партыяй БНФ да гэтай супольнай пазыцыі далучаныя БСДП (Грамада), АГП, партыя левых "Справядлівы мір", партыя "Зялёныя", прадстаўнікі аргкамітэта БХД ды іншых дэмакратычных аб'яднаньняў.

Заява апазыцыйных партыяў і рухаў:

### ЗА ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЮ ЎМОЎ ДЗЕЙНАСЦІ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ

Заява прадстаўнікоў палітычных партый, аргкамітэтаў па стварэнні палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў

Мы, прадстаўнікі палітычных партый, аргкамітэтатаў па стварэнні палітычных партый і іншых грамадскіх арганізацый лічым, што палітычныя партыі ў сучасных умовах павінны адыгрываць вядучую ролю ў палітычным жыцці Беларусі і выражаць волю грамадзян у рашэнні дзяржаўных пытанняў.

Мы канстатуем, што ў Рэспубліцы Беларусь склалася негатыўная практыка абмежавання дзейнасці партый, якая выражаецца ў стварэнні неабгрунтаваных перашкодаў для рэгістрацыі новых палітычных партый, для развіцця арганізацыйных структур ужо існуючых партый, а таксама абмежаванняў доступа да СМІ і да крыніц фінансавання. Пры гэтым назіраецца няроўнае стаўленне ўлады да палітычных партый у залежнасці ад іх лаяльнасці ў адносінах да дзеючай ўлады.

У сувязі з тым, што распачаўся працэс зменаў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб палітычных партыях" патрабуем замацаваць у новай рэдакцыі закона прынцыпова важныя змены:

1) Спрасціць парадак рэгістрацыі палітычных партый, скараціць колькасць заснавальнікаў, увесці паведамляльны прынцып пастаноўкі на ўлік іх арганізацыйных структур;

2) Забяспечыць дзяржаўнае фінансаванне статутнай дзейнасці палітычных партый, а таксама спрыяць прадастаўленню памяшканняў з фонда рэспубліканскай і камунальнай уласнасці для выканання імі дзейнасці ў статутных мэтах;

3) Абавязаць дзяржаўныя органы і органы самакіравання прадаставіць роўныя магчымасці для дзейнасці ўсіх палітычных партый, у тым ліку гарантаваць ім права доступу да дзяржаўнага тэлебачання, газет і радыё.

Мы заяўляем, што без ўліку і рэалізацыі гэтых прапаноў, папраўкі ў закон будуць насіць касметычны, фармальны характар і не будуць спрыяць далейшаму развіццю палітычнай сістэмы Беларусі.

# НАРОДНАМУ ПАРКУ БЫЦЬ!

**Высадзіць дрэвы і кусты на пустуючых плошчах каля сваіх дамоў ці дамагчыся гэтага ад уладаў заклікаюць актывісты ініцыятывы "Зялёны Віцебск".**

Прыклад занядбання так званага "Парка 1000-годдзя", які быў закладзены больш за 40 год таму каля абласной бальніцы, а толькі зараз на ім пачалі высаджваць дрэвы, вымусіў дзейнічаць зялёных актывістаў, якія пражываюць на вуліцах Чкалава і Воінаў-Інтэрнацыяналістаў абласнога цэнтра.

Пустыя землі на плошчы меньш за 5 га, якія абмяжоўваюцца праспектам Чарняхоўскага, вуліцай Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, пуцямі чыгункі і будынкамі СТА "Аўтакан" і гаражамі прапануецца засадзіць дрэвамі ў бліжэйшай будучыні. Месца над АЗС №2 Белнафтахім і прылеглыя пляцоўкі выдатна прыдатныя для азелянення, участкі знаходзяцца недалёка ад жылых дамоў, карыстаюцца велааматарамі і спартсмэнамі для трэніровак, тут можна пабачыць і ўладальнікаў сабак, якія выгульваюць тут сваіх пітомцаў. Праз колькі год пры добрым наглядзе высаджаных дрэваў сюды з задавальненнем будуць прагульвацца маці з малымі дзецьмі, каб проста сысьці з запыленых двароў і падыхаць свежым паветрам і паслухаць спевы птушак.

На генеральным плане забудовы Віцебска частка гэтых земляў прызначаная для будаўніцтва грамадскіх аб'ектаў, але, як сказаў галоўны архітэктар Віцебска **Ігар Кадушка** "… інвестара можа і не знайсцісь". Таму свечасовая ініцыятыва актывістаў, якая падтрыманая подпісамі мясцовых жыхароў да выканкамаў і домакіраўніцтваў, і невялічкай групай жыхароў Віцебска, якія плануюць ужо гэтай вясной пачаць высадкі дрэваў і кустоў.



Назву новаму парку (ці скверу) папярэдне далі адпаведную. Яго ўжо называюць **Народным**, бо хто як не актыўныя грамадзяне сваёй краіны і валанцёры роднага горада павінны клапаціцца пра будучае сваіх мікраранаў, іх экалагічную бяспеку і зручныя месцы адпачынку і прагулак з дзецьмі.

Таму гараджане па прапанове **Аляксандра Ільінца**, што жыве на вуліцы Чкалава, звяртаюцца да усіх віцяблянаў з прапановай не заставацца ўбаку, пачаць фармаваць вакол сабе ўтульную інфраструктуру для камфортнага жыцця, неад'емнай важкай часткай якога ёсьць зялёныя лёгкія горада. Улады з кожным месяцам пазбаўляюць нас зялёных насаджэнняў, 100 раз на год косяць траву, пакідаючы жоўты пыл. Чакаем актывістаў Зялёнага Адраджэньня каб разам працягнуць рабіць годную справу!

# АДЗНАЧАЙ РОДНАЙ МОВАЙ – БЕЛАРУСКУЮ!

**У кастрычніку 2019 году ў нашай краіне пройдзе чарговы перапіс насельніцтва.**

Сярод пытаньняў (нумар 12 і 13), на якія трэба будзе адказаць падчас перапісу, будзе і пытаньне пра вашую родную мову. Адказ мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэньне.

Ад колькасьці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы. Адказам «беларуская» вы станоўча паўплываеце на яе.

Гаворыць старшыня Берасьцейскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Зьміцер Шыманскі**:

– Выпадковых пытаньняў падчас перапісу не задаюць. Усе гэтыя зьвесткі пасьля будуць выкарыстоўвацца і навукоўцамі для дасьледаваньняў, і дзяржаўнымі ўстановамі для таго каб карэктаваць сваю палітыку. Таму канешне, натуральна – хлусіць ня трэба: трэба проста ўспомніць, чаму вас вучыла маці, што вы чулі, калі прыяжджалі да бабулі ў вёску, і кажаць шчыра, што вашая першая родная мова – гэта беларуская мова.




Беларускія дзеячы заклікаюць грамадзян да выбару беларускай мовы як роднай у перапісе насельніцтва. У выказваннях пра родную мову нярэдка ўзгадваюцца дыялекты, якія нас адрозніваюць і аб'ядноўваюць адначасова.

Кажа тэолаг, рэлігіязнаўца **Наталля Гарковіч**:

– Калі мая палесская бабуля прыехала ў Менск і пайшла ў царкву, то падчас набажэнства было чытанне на беларускай мове. Яна прыйшла з царквы і сказала: „Слухатэ, я всэ разумію". Нашы рэгіёны досыць адрозніваюцца адзін ад аднога. Але тым не менш, афіцыйная мова ўсё ж, мне падаецца, з'яўляецца для ўсіх нас роднай.

Любая мова існуе, калі ёсць яе дыялекты, лічыць гісторык, супрацоўнік Беларускай акадэміі навук **Аляксандр Доўнар**:

– Я стараюся гаварыць на тым дыялекце, на якім я вырас. Дзядуля і бабуля са мной гаварылі па-беларуску, і я лічу, калі я буду гаварыць не па-беларуску, не на маёй роднай мове, на якой са мной гаварылі мае бацькі і дзяды, то гэта пэўная непавага да іх.

*http://narodny.org/?p=22497*